# БАЦЬКАЎШЧЫНА



ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAČKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck. „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана:** **Нямеччына** (іншыя эўрапэйскія краіны бяз Францыі й паўдзён-наамэрыканскія краіны»: год — 25 н. м.; паўгода — 12,5 н. м.; **ЗША й Канада:** год — 13 дал.; паўгода — 6,5 дал.; **Ангельшчына й Аўстралія:** год — 60 шыл.; паўгода — 30 шыл.; **Францыя:** год — 25 н. ф.; паўгода — 12,5 н. ф. **Перасылка лётніцкай поштай у ЗША й Канаду каштуе падвойна, у Аўстралію й краіны Паўднёвай Амэрыкі — патройна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна.**

**Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.**

ЦАНА 50 Н. ФЭН. — PREIS 50 Pf.

| LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE BELORUSSIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND“ |
|---|---|---|

№ 10 (594) — Мюнхэн, Нядзеля 1-га ліпеня 1962 г. — München, Sonntag, 1 Juli 1962 — ГОД ВЫДАНЬНЯ 16

# У савецкай нацыянальнай палітыцы бязь зьменаў

У травені гэтага году ў Ташкенце адбывалася гэтак званая Ўсесаюзная навуковая канфэрэнцыя вышэйшых навучальных установаў. Усе даклады, зробленыя на гэтай канфэрэнцыі, былі прысьвечаныя аднэй і тэй-жа тэме — гэтак званаму «Трыюмфу ленінскай нацыянальнай палітыкі ў СССР». Канфэрэнцыя праводзілася ўрачыста, дакладчыкі ўсхвалялі мудрасьць Леніна, гаварылі аб заслугах кампартыі і важнасьці пастановаў 22-га зьезду для трыюмфу ленінскай нацыянальнай палітыкі. Але трыюмфу самой нацыянальнай палітыкі кампартыі на канфэрэнцыі не заўважалася. І той факт, што ўсе дакладчыкі адзін за адным, як завучаную лекцыю, паўтаралі выказваньні афіцыйнай савецкай прапаганды і рэзалюцыяў 22-га зьезду партыі, паказвае, што трыюмфаваць з прычыны савецкай нацыянальнай палітыкі можа толькі кіраўніцтва канпартыі, а зусім не народы Савецкага Саюзу.

Канфэрэнцыя адбывалася ў ташкенцкім тэатры імя Навоі. І гэты тэатр вельмі адпавядаў характару самой канфэрэнцыі. Бо сама канфэрэнцыя — больш тэатральны паказ п'есы «Ленінская нацыянальная палітыка», чымся навуковая канфэрэнцыя.

Напрыклад, на канфэрэнцыі шмат гаварылася аб нацыянальнай сувэрэннасьці. Гэтаму пытаньню быў прысьвечаны даклад кіраўніка маскоўскага Інстытуту народнай гаспадаркі Карпушына. Калі-б можна было паверыць ягоным цьверджаньням, дык выглядае, што гэтак званыя «буржуазныя» навукоўцы ўважаюць ідэю нацыянальнай сувэрэннасьці застарэлай, а шлях нацыянальнай сувэрэннасьці, які выбралі народы, што змагаюцца з каляніялізмам — «трагічным» для гэтых народаў. З выказваньняў прафэсара Карпушына выглядае, што толькі савецкая камуністычная партыя абараняе і практычна ажыцьцяўляе ідэю нацыянальнай сувэрэннасьці.

Зразумела, ніхто з прысутных не паставіў прафэсару Карпушыну пытаньня аб тым, чым-жа вытлумачыць той факт, што гэтак званыя «буржуазныя і капіталістычныя» краіны, якія, паводля словаў Карпушына, супраць нацыянальнай сувэрэннасьці, бязь ніякага прымусу прызналі нацыянальную незалежнасьць Індыі, Бірме, Нігэрыі, Танганьіцы, Тунісу, Марока і іншым калёніям ў Афрыцы і Азіі. І чым вытлумачыць той факт, што савецкі ўрад, які выстаўляе сябе абаронцам нацыянальнай сувэрэннасьці, ня толькі не пайшоў за прыкладам заходніх краінаў, але ў гэты-ж самы час падпарадкаваў сабе дзесяткі народаў?

Ува ўсіх дакладах у Ташкенце шмат гаварылася або прыязьні паміж народамі Савецкага Саюзу, якая быццам была дасягнутая дзякуючы савецкай нацыянальнай палітыцы. Напрыклад, першы сакратар ЦК узбэцкай камуністычнай партыі Рашыдаў прыгадаў пры гэтым узбецкую прыказку: «Сіла птушкі ў крыльлях, а сіла чалавека — у дружбе». Дружба — рэч цудоўная, дружба — неабходная для шчасьця народаў, але справа ў тым, што савецкая кіраўніцтва разумее дружбу паміж народамі вельмі-ж сваеасабліва. Гэта мы бачым з дакладу на прыгаданай канфэрэнцыі дацэнта азэрбайджанскага унівэрсытэту Касым Задэ. Ён заявіў, што аднэй з найважнейшых формаў дружбы паміж народамі СССР «зьяўляецца сацыялістычнае спаборніцтва рэспублік і вобласьцяў, якое ўзмацняецца з дня на дзень. Даволі дзіўнае, мякка кажучы, разуменьне дружбы...

На прыгаданай канфэрэнцыі выступалі й прадстаўнікі Беларускай і Ўкраінскай ССР.

«Прадстаўнік» Беларусі, дацэнт Менскага Унівэрсытэту Малочка цьвердзіў, што сацыялістычны распадзел працы паміж савецкімі рэспублікамі зьяўляецца вялікім дасягненьнем савецкай нацыянальнай палітыкі. Фактычна-ж, гэты сацыялістычны распадзел працы паміж рэспублікамі прыводзіць да поўнай эканамічнай залежнасьці ад Масквы і ператварае гэтыя рэспублікі ў калёніі цэнтральнага камуністычнага кіраўніцтва. Гэтае зьявішча ёсьць дасягненьнем савецкай **каляніяльнай** палітыкі, але дасягненьнем **нацыянальнай** палітыкі яго ніякім чынам уважаць нельга. Пэўна-ж, дацэнт Малочка ніводным словам не прыгадаў, якімі шляхамі Беларусь трапіла ня толькі ў эканамічную, але і ў палітычную залежнасьць ад Масквы.

Прадстаўнік ад Украіны, прафэсар Кіеўскага унівэрсытэту Бародзін, цьвердзіў, што калі-б Украіна ў канцы 19-га і ўпачатку 20-га стагодзьдзяў не зьяўлялася складовай часткай Расеі, якая сталася цэнтрам сусьветнага рэвалюцыйнага руху, дык Украінцы ніколі-б самастойна не атрымалі тых дабрадзействаў, якімі яны цяпер карыстаюцца пры савецкай уладзе.

Як гэта можна назваць: гіроніяй ці цынізмам?

Абмяркоўваньне савецкай нацыянальнай палітыкі — справа пажаданая і карысная. Аднак ня гэтак яно павінна праводзіцца. Характар-жа прыгаданай канфэрэнцыі найлепш сьветчыць аб ейнай «навуковасьці». Зборышча, якое бяскрытычна падтрымлівае загадзя накінутыя яму зьверху тэзісы і высновы, можна называць парознаму, але не навуковай канфэрэнцыяй.

Месца канфэрэнцыі найлепш сьветчыць і аб ейнай мэце: абдурваць нясьведамых ў Азіі й Афрыцы і зьбіваць з толку тых, што ўжо разабраліся ў сутнасьці савецкай нацыянальнай палітыкі.

У сваю чаргу, гэтая бальшавіцкая інсцэнізацыя яшчэ раз паказвае, што ў бальшавіцкай нацыянальнай палітыцы вынас Сталіна з маскоўскага маўзалею не зьмяніў нічога.

**Р. С.**

# *Прынцыповае ці другараднае?*

Рэдакцыя «Бацькаўшчыны» часта стаіць перад бадай неразьвязальнай праблемай. Чытачом ведамыя нашы заклікі інфармаваць праз газэту аб усіх годных увагі падзеях, што адбываюцца ў жыцьці нашай эміграцыі ці ейных пасобных асяродках. Колькі разоў мы папракалі нашых супрацоўнікаў за тое, што зь іхнае віны шмат такіх падзеяў застаюцца «незарэгістраваньмі» на бачынах «Бацькаўшчыны», а хроніка нашага арганізаванага жыцьця і дзейнасьці — гэта-ж дакумантацыя, доказ нашае жыцьцяздольнасьці. Колькі разоў нам даводзілася інфармаваць чытачоў аб дзейнасьці нашых асяродкаў у розных краінах сьвету зь вялікім спазьненьнем, грунтуючыся на пачутым ад трэйцяе, а то й пятае особы. Аб гэтым мы пісалі ўжо няраз. У выніку здараліся выпадкі, што інфармацыя была няпоўнай, а часам і аднабавокай. Вось тады раптам сыпаліся пратэсты, дапаўненьні, удакладненьні, абвінавачваньні «Бацькаўшчыны» ў неаб'ектыўнасьці. А ці вінаватая ў гэтых выпадках «Бацькаўшчына»?

З другога боку, часта бываюць выпадкі, што аб тэй ці іншай падзеі ці здарэньні рэдакцыя атрымоўвае некалькі карэспандэнцыяў зь вельмі розным, а то й дыямэтральна супярэчлівым насьвятленьнем таго, што адбылося. Ізноў-такі «Бацькаўшчына» ў незайздросным палажэньні: што друкаваць? Каму верыць? Бываюць выпадкі, што з радкоў карэспандэнцыі нядвузначна прабіваецца тэндэнцыйнасьць, — прыкладам, спроба паказаць сябе ці пэўную групу ў выгадным для сябе сьвятле і адначасова намаганьне зганьбіць іншых. Але ў бальшыні выпадкаў людзі пішуць шчыра, ад сэрца, і розьніца ў насьвятленьні тлумачыцца або даўно выпрабленым настаўленьнем да пэўнай праблемы, або мясцовай атмасфэрай з усімі выкліканымі ёю канфліктамі

Што рабіць у такіх выпадках рэдакцыі? Здавалася-б, справа даволі простая: або — бачачы сьведамую суб'ектыўнасьць аўтара — устрымацца наагул ад надрукаваньня ягонае карэспандэнцыі, або — у іншых выпадках — падаць ці зрэзюмаваць карэспандэнцыі аўтараў, якія парознаму насьвятляюць адну і тую-ж падзею (г. зн. супрацьставіць іх), або абмежавацца толькі фактамі. Ёсьць і яшчэ адно «або» — або — абыйсьці ўсё гэта моўчкі.

Як бачыце пасьля вышэй сказанага, ужыты намі тэрмін «справа простая» гучыць ужо гіроніяй, бо зашмат гэтых «або».

Ня будзем пярэчыць ці затойваць, што ў вабліччы гэтае праблемы, «Бацькаўшчына» не заўсёды выбірала найлепшае «або», найлепшы выхад — часам крыўдзячы, ці навет настаўляючы да сябе варожа пэўныя асобы ці групы. Але ці тут толькі нашая віна?

Не расьпісваючыся доўга, паспрабуем узяць быка за рогі: што, з нашага гледзішча, зьяўляецца найважнейшай праблемай?

На нашу думку — блытаньне прынцыповага з другарадным. Маем на ўвазе блытаньне гэтага ў грамадзкай і палітычнай дзейнасьці, бо карэспандэнцыі — толькі адлюстраваньне ўсяго гэтага. Пераношаньне асабістых разьлікаў на грамадзкае поле дзейнасьці, мясцовых, часта дробных канфліктаў у плошчу нашай агульнай справы — як у нас прынята называць, «дэпіўшчына», «лягершчына». А гэта — прызнаеце, дарагія чытачы — карысьці ў ніякім выпадку не дае.

Возьмем некалькі прыкладаў. Энэргічны, здольны кіраўнік грамадзкай арганізацыі раптам (а мо й ня раптам) уявіў сабе, што толькі ягоная думка правільная, зусім ня лічачыся з думкай іншых, больш дасьветчаных асобаў. І вось гэтыя іншыя становяцца для яго асабістымі ворагамі. Справа, зразумела, на гэтым не канчаецца: выкарыстоўваючы сваё палажэньне й уплывы, ён пераносіць гэтую варажнечу на грамадзкі форум, сьведама выклікаючы канфлікты, якія ніяк ня спрычыняюцца да працаздольнасьці гэтае арганізацыі. Мала таго: засьлеплены амбіцыяй, ён робіць усё магчымае, каб падарваць у вачох грамадзкасьці прэстыж нашых найвышэйшых палітычных установаў і дзеячоў, якія сваёй дзейнасьцяй здабылі пашану, калі пра прыгаданую асобу зь фюрэрскімі замашкамі і куры не квахталі. Лёгкаверных знайсьці можна заўсёды, асабліва іграючы на патрыятычных пачуцьцях...

Або іншы прыклад. Станаўленьне і ўмацаваньне нашае Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы было нялёгкім і выклікала зусім натуральныя цяжкасьці. Дзякуй Богу, цяпер можам пахваліцца, як на нашы эміграцыйныя ўмовы, неблагой арганізацыяй нашае праваслаўнае Царквы. І вось часам рэчы, якія тычацца выключна Царквы,

**(Заканчэньне на 2-ой бачыне)**

# Савецкі „сацыялізм“ на практыцы

У савецкай прэсе 1 чэрвеня сёлета была зьмешчаная пастанова ЦК КПСС і Савету міністраў СССР, у якой паведамлялася, што продажныя цэны на ўсе віды мяса і каўбасныя вырабы павялічваюцца ў сярэднім на 30 працэнтаў, а на масла — на 25 працэнтаў. Гэты «падарунак» падсавецкім народам ад партыйна-савецкага кіраўніцтва быў няпрыемнай неспадзеўкай для мільёнаў працоўных масаў. Заміж абяцанага на XXII зьезьдзе камуністычнай партыі, на сакавіковым пленуме і ў выступленьнях і доўгіх прамовах самога Хрушчова дастатку й багацьця прадуктаў харчаваньня, пры будаўніцтве гэтак званага камунізму — ашуканыя народы дачакаліся пакуль-што значнага павышэньня цэнаў на мяса-малочныя прадукты.

Якімі-ж патрэбамі было выкліканае павышэньне цэнаў на мяса й масла. Толькі нядаўна — у заключанай прамове на пленуме ЦК КПСС, які адбыўся ў пачатку сакавіка сёлета, Хрушчоў гаварыў: «Няўхільна разьвіваючы прамысловасьць і ўмацоўваючы абарону савецкай краіны, партыя і ўрад знойдуць і выдзяляць дастатковыя сродкі для сельскай гаспадаркі». Аднак яшчэ перад тымі хрушчоўскімі абяцанкамі было ўжо вырашана, адкуль і як узяць сродкі для «падняцьця» занялалай сельскай гаспадаркі, а перш за ўсё неабходныя крокі, каб штучна скараціць попыт працоўных масаў на тавары мяса-малочнай прадукцыі.

Адначасна зь няпапулярнай пастановай у прэсе быў зьмешчаны так званы «зварот да ўсяго савецкага народу». У сваім звароце ЦК партыі й Савет міністраў няўдала й хвальшыва імкнуліся пераканаць працоўных Савецкага Саюзу, што павышэньне цэнаў на мяса й масла выкліканае неабходнасьцяй «паспяховага будаўніцтва камунізму». У звароце партыйна-савецкае кіраўніцтва запэўнівае і абяцае, што напасьледак гэтае мерапрыемства прынясе ўсяму народу бяссумлiўныя выгады. Але якія, у звароце ня сказана.

Адно было адзначана, што за рахунак дадатковых сродкаў, якія будуць атрыманыя за мясамалочныя прадукты, партыйна-савецкае кіраўніцтва павысіць закупачныя цэны калгасам, якія здаюць дзяржаве жывёлу й малако. Запраўды, пастанова аб павышэньні закупачных цэнаў калгасам таксама была апублікаваная 1 чэрвеня сёлета. У звароце адзначалася, што павышэньне здатачных цэнаў калгасам вельмі патрэбнае, бо да гэтага часу калгасы здавалі жывёлу й малако ніжэй сабекошту і мелі вялізарныя страты, якія «зьядалі» навет і тыя прыбыткі, што некаторыя калгасы мелі ад іншых галінаў сельскай гаспадаркі. Падаваўся й яшчэ адзін няпраўдзівы аргумант, які разыходзіцца з фармальнай ідэялёгіяй камуністычнай партыі. У звароце адзначалася, нібы ў Савецкім Саюзе масла прадавалася насельніцтву па надзвычай нізкіх цэнах, значна ніжэйшых, чымся ў перадавых гэтак званых капіталістычных краінах.

Няма патрэбы пералічаць іншыя няшчырыя і да таго крывадушныя й блытаныя разважаньні й тлумачэньні гэтага хрушчоўскага дакуманту аб неабходнасьці й мэтазгоднасьці ўскладніць і абрэзаць і так слабенькі бюджэт падсавецкай працоўнай сям'і. Аднак сапраўдную прычыну значных павышэньняў цэнаў Хрушчоў выказаў на мітынгу так званай Кубінскай дружбы, які адбыўся ў Маскве 2 чэрвеня. У сваёй прамове на гэтым мітынгу Хрушчоў прагаварыўся, што была зробленая памылка. «Мы пралічыліся», сказаў ён. Нібы-та апошнімі часамі заработная плата работнікам і служачым, якія нізка аплачваліся, настолькі павялічылася, што ў насельніцтва стала шмат больш грошаў, а саўгасы й калгасы ня могуць выпрадукаваць столькі мяса й малака дзеля забясьпячэньня ўсіх запатрабаваньняў на гэтыя прадукты..

Вось-жа, каб штучна скараціць попыт на мяса й малочныя прадукты з боку бяднейшага насельніцтва і былі павышаны продажныя цэны ў дзяржаўных магазынах. Такім чынам увесь цяжар гэтай пастановы ляжа на тых, хто найменш атрымлівае за сваю працу. Падвышка цэнаў на мяса-малочныя прадукты не адаб'ецца на дабрабыце шматлікай партыйна-савецкай эліты, пачынаючы ад Крамля да раёнаў уключна. Нічога ня страцяць ад пастановы маршалы, генэралы й іншы каманднa-палітычны склад арміі й флёты, спэцыялістыя і сотні тысяч тых, што робяць славу Хрушчову й ягоным паплечнікам. Яны да гэтага часу мелі ўсяго ў дастатку і далей будуць мець. Увесь цяжар апублікаванай пастановы яшчэ больш прыцісьне найбяднейшых. Да гэтай катэгорыі належаць інваліды вайны, удовы й сіроты, звычайныя пэнсіянэры, якія ня могуць працаваць з прычыны стану свайго здароўя й старасьці, а таксама ладная праслойка работнікаў і службоўцаў, якія атрымліваюць ад 20 да 50 рублёў месячнай пэнсіі.

Якую-ж карысьць будуць мець калгасьнікі ад таго, што дзяржава [illegible]чыць плату за жывёлу, птушку й малако, што здаецца дзяржаве ў парадку выкананьня калгасамі плянаў нарыхтовак. У «звароце да савецкага народу» адзначана, што калгасы да гэтага часу пры здачы буйнай рагатай жывёлы ў сярэднім трацілі на цэнтнары жывой вагі 26 рулёў, на сьвіньнях больш — 35 рублёў, а на здачы птушак — аж звыш 51 рубля. Здаўшы ў мінулым годзе дзяржаве каля 3,9 мільёнаў тонаў, або палавіну ўсіх нарыхтовак, калгасы мелі за 1961 год стратаў на жывёла-гадоўлі 120 мільёнаў рублёў.

Між тым гэтыя стратныя для калгасаў цэны на жывёлу былі ўстаноўленыя савецкім урадам яшчэ ў 1958 годзе. Такім чынам, рабоўніцтва калгаснага сялянства моўчкі праводзіцца на працягу чатырох гадоў. Страты калгасаў павялічваліся яшчэ высокімі нацэнкамі за тэхніку, штучныя ўгнаеньні і на рамонты сельскагаспадарчых машынаў у дзяржаўных майстэрнях. Грашовыя прыбыткі калгасаў зьмяншаліся таксама высокімі адлічэньнямі ў так званы непадзельны грашовы фонд калгасаў. Гэтая нялюдзкая эксплятацыя калгаснага сялянства адбывалася ў розных формах на працягу ўсяго калгаснага прыгону, пакідаючы калгасьнікам на аплату працы ў грамадзкай гаспадарцы капейкі й грамы натуральнай прадукцыі.

Камуністычная прапаганда, выкарыстоўваючы павышэньне цэнаў калгасам за мяса-малочную прадукцыю, разгарнула агітацыю за павялічэньне вытворчасьці прадукцыі, асабліва мяса й малака, патрабуючы ад калгасьнікаў нястомнай і напружанай працы. Ад шматлікага кіруючага складу сельскай гаспадаркай з услужлівымі прыганятымі й наглядчыкамі партыйнае кіраўніцтва патрабуе «найбольш разумна выкарыстаць дадатковыя сродкі, каб за кажны затрачаны рубель была атрымана максымальная колькасьць прадукцыі радзіме.»

Няма сумліву, што ў гэтым годзе магутны нарыхтоўчы апарат праз так званыя сацыялістычныя забавязаньні забярэ збожжа, мяса малако й іншую прадукцыю незалежна ад ураджаю й гаспадарчых магчымасьцяў. Калгасьнікам застануцца толькі сьціплыя стаўкі аплаты працы грашыма і натураю, як і ў мінулыя гады.

**В. К.**

# Новае хвальшаваньне гісторыі пачынаецца

У № 4 часапісу **«Вопросы истории»** за бягучы (1962) год акадэмік Б. А. Рыбакоў зьмясьціў артыкул пад назовам «Обзор общих явлений русской истории IX–середины XIII века». Гэты артыкул будзе складаць адзін з разьдзелаў першага тому 11-томнай «Истории СССР», які цяпер выдае Інстытут археалёгіі Акадэміі навук СССР (іншыя тамы падрыхтоўваюцца да друку Інстытутам гісторыі АН СССР). У сваім артыкуле акадэмік Рыбакоў, які зьяўляецца адначасна адказным рэдактарам названага тому, кранаецца ў першую чаргу пытаньня пэрыядызацыі гісторыі Кіеўскай Русі. Аднак у гэтым артыкуле й адначасна ў вядучым разьдзеле першага тому «Истории СССР» у даволі акрэсьленай і вымоўнай форме прыпаднесеная таксама агульная канцэпцыя пра Кіеўскую дзяржаву наагул і гісторыю беларускага народу ў прыватнасьці.

У свой час на бачынках «Бацькаўшчыны» адзначалася, што новая мнагатомная «История СССР» паклікана схвальшаваць да непазнаньня гісторыю нерасейскіх народаў СССР. У дырэктывах партыі гаварылася, што гэты мнагатомнік павінен раз і назаўсёды пакончыць з праявамі гістарыяграфічнага нацыяналізму гэтых народаў, з аднаго боку, ды паказаць Расею й расейскі народ, як імпэрыю «прагрэсыўнага» характару й народ, «выбраны гісторыяй», з другога. Адным словам, мнагатомнік павінен зьвесьці гісторыю нерасейскіх народаў да гісторыі аднае Расеі й расейскага народу.

Праўда, у пачатку свайго артыкулу акадэмік Рыбакоў зазначае, што «Кіеўская Русь — гэта юнацтва й маладосьць трох братніх славянскіх народаў: расейскага, украінскага й беларускага». З гэтага быццам можна зрабіць выснаў, што, хоць у тыя старыя часы ўсе яны й тварылі, згодна акадэміка Рыбакова, «адну старажытнарускую народнасьць», у далейшым бегу гісторыі пайшлі кажны сваім шляхам і сталіся, такім чынам, апрычонымі народамі з сваёй апрычонай гісторыяй і культурнымі здабыткамі. Аднак гэты лягічны вывад для акадэміка Рыбакова ня можа існаваць, і ягонае асьветчаньне становіцца толькі звычайнай савецкай агаворкай і агаворкай непатрэбнай. Запраўды, як выглядае, акадэмік Рыбакоў зусім не прадбачвае, напрыклад, для беларускага народу гэтага апрычонага гістарычнага шляху і такім чынам не прадбачвае існаваньня гістарычна складзенага беларускага народу. Для яго гістарычны шлях беларускага, украінскага й расейскага народаў застаецца ў запраўднасьці тым-жа адзіным «традыцыйным» шляхам, які быў быццам запачаткаваны яшчэ ў так званай «адзінай Старажытнарускай дзяржаве» — Кіеўскай Русі й які знайшоў сваё завяршэньне ў «вялікай» Расеі. Акадэмік Рыбакоў угледжвае ў гісторыі гэтых трох народаў адну цягласьць: Кіеўская Русь — Маскоўшчына й, ведама, «вялікая» Расея, г. зн. апошнія быццам-бы зьяўляюцца гістарычна-праўнымі спаткаемцамі першай. Пайменна, гэтая «гістарычна-праўная» цягласьць выразна вынікае з наступнага насьвятленьня гісторыі, якое акадэмік Рыбакоў прыпадносіць чытачу: IX–XI стагодзьдзі — існаваньне на прасторах усходнеславянскіх народаў «адзінай» Кіеўскай Русі ці проста Русі, гэтай «раньнефеадальнай манархіі»; XII–XV стагодзьдзі «феадальнай раздробленасьці! ад канца XV стагодзьдзя — «цэнтралізаванае» гаспадарства з цэнтрам у Маскве. Усё гэта носіць назоў «Русь». Існаваньня-ж Вялікага Княства Літоўскага ўжо ў гэты пэрыяд «феадальнай раздробленасьці» акадэмік Рыбакоў наагул не заўважае. Гэткім чынам ён загадзьдзя адмаўляе беларускаму народу права на апрычоны гістарычны развой ды штучна прыпадносіць тую-ж цягласьць: Кіеўская Русь-Маскоўшчына — «адзіная й недзялімая» Расея.

Гэтае няпрызнаньне беларускага народу й ягонай апрычонай гісторыі больш яскрава выявілася ў канцэпцыі акадэміка Рыбакова пра Кіеўскую Русь. У вагульных рысах гэтая канцэпцыя выглядае наступна: ужо ў IX стагодзьдзі й з самага пачатку гэтага стагодзьдзя гэтая Кіеўская Русь аб'ядноўвала як украінскія землі, так і ўсе беларускія, а пайменна полацкіх і смаленскіх Крывічоў з цэнтрамі Полацкам і Смаленскам і Дрыгвічоў з Радзімічамі. У X стагодзьдзі Кіеўская Русь зьяўляецца «найбольшым» і «наймагутнейшым» гаспадарствам Эўропы, і, бязумоўна, не магло быць і месца для «беларускага сэпаратызму». У канцы гэтага стагодзьдзя тут, г. зн. у Полацку, правіў «сын» Уладзімера й Полацкае княства выконвала найменшыя пажаданьні свайго «манарха». У XI стагодзьдзі Полацкае княства толькі выяўляла «сэпаратыстычныя тэндэнцыі», усьцяж творачы «адзінае цэлае» з гэтай «імпэрыяй Карла Вялікага», перанесенай на ўсход Эўропы. Навет ў пачатку XII стагодзьдзя «ўся Русь, апрача аддаленага Галіцкага ўдзелу, падпарадкавалася Мсьціславу» (кіеўскі князь, 1125—1132). «Калі-ж полацкія князі, — цьвердзіць акадэмік Рыбакоў, — у 1128 годзе угнявілі вялікага князя, дык ён ажыцьцявіў вялізарны стратэгічны плян: князі-васалы Мсьціслава выступілі ў паход [illegible] іх з усіх бакоў із Уладзімера Валынскага й Курску, із Горадні (Гродна) й Ноўгараду Вялікага, із Чарнігава, Ноўгараду Северскага й Смаленску, із Турава й паўднёвых земляў «Чорнага Клабука» — Торкаў. Усім ім быў вызначаны дзень для нападу на акрэсьленыя гарады. Полацкае княства было заваёвана бяз крыві, і Мсьціслаў пасадзіў тут свайго стаўленьніка, а непакорных выслаў у Бізантыю». Акадэмік Рыбакоў робіць выснаў: «Так мог толькі зрабіць ня князь Кіеўскай зямлі, а цэзар ці цар усяе Русі, якім фактычна й юрыдычна Мсьціслаў і зьяўляўся».

Ня будзем тут ганьбіць акадэміка Рыбакова за ягоныя выразна шавіністычныя й неакадэмічныя ўхілы, якія выявіліся ў тым, што для гэтае «Русі» ён «прабівае вокны» і ў Эўропу, і да Чорнага мора, называючы іншыя дзяржавы з падобнымі імпэрыялістычнымі ці й бяз ніякіх імпэрыялістычных тэндэнцыяў «драпежнымі» дзяржавамі (Бізантыя), ці «дзяржавамі-паразытамі» (Хазараў), або мянуючы іншыя народы «піратамі» й «бруднымі забойцамі» (Варагаў) ці «рабаўнікамі» (удзельнікаў Крыжовых паходаў). Зьвернемся лепш да ягонай канцэпцыі пра гэтую «адзіную» й «усемагутную» Русь.

Няведама, на якіх падставах акадэмік Рыбакоў так разбудоўвае Кіеўскую Русь IX стагодзьдзя. Дайшоўшы да нас хронікі гавораць пра іншае, а пайменна, што «Крывічы...» й г. д. «жылі сваім жыцьцём». Таксама, як хоць-бы паказаў Шахматаў, на аўтарытэт якога паклікаецца й акадэмік Рыбакоў, у так званыя «ўклады на рускія грады» Алега Полацак быў упісаны задняй датай, і такім чынам няма ніякае асновы залічаць Полацкае княства да Кіеўскае Русі і ў пачатку X стагодзьдзя. Далей-жа Полацкае княства жыло сваім самастойным палітычным жыцьцём, і ў другой палавіне гэтага стагодзьдзя мы тут сустракаемся зь незалежным князем Рогваладам.

Асобна трэба сказаць пра так званае заваяваньне Полацкага княства Ўладзімерам і пра легэнду аб Рагнедзе. Першапачатковай версыяй гэтае легэнды акадэмік Шахматаў прызнаў версыю Лаўрэнцеўскага лэтапісу, запісаную пад 1128 годам. Тут гаворыцца, што сватаньне да Рагнеды й напад на Полацак адбыліся тады, калі Ўладзімер быў дзіцём, што, ведама, не магло здарыцца. Далей у гэтай версыі гаворыцца пра помсту Рагнеды, нязьвязаную з хрышчэньнем Уладзімера, а таксама пра ейнага **толькі аднаго й маленькага** сына (Ізяслава), што так «брава» выступіў у вабарону свае маці. А галоўнае, што ў гэтай версыі Ўладзімер, які меў некалькі законных жонак і нязьлічоную колькасьць палюбніць, выведзены чалавекам зь «вялікім сэрцам», які навет, замест пакараньня, «вярнуў бацькаўшчыну» Рагнедзе (ды чамусьці ня Полацак, але «збудаваў Заслаўль»). Перад гэтым-жа гэты самы Ўладзімер з «добрым сэрцам» зьняважыў Рагнеду ў ваччу бацькоў ды ў ваччу Рагнеды забіў ейных бацькоў і братоў. Версыя аднак да аднаго прызналася й прызнавалася, як бачна, праўдзіва, а пайменна, што ня ўнукі Ўладзімера, але **«ўнукі Рогвалада** з тых пор падымаюць меч супраць унукаў Яраслава».

Частка разгледжанае версыі даслоўна трапіла й у «Повесть временных лет» пад 980 годам, але, як давёў акадэмік Шахматаў і як сьветчыць кантэкст, яна тут устаўлена штучна, бо ня зьвязваецца з наважанымі намерамі Ўладзімера. Уладзімер аб'яўляе вайну Яраполку й «ідзе на яго», пасьля чамусьці зноў «садзіцца ў Ноўгарадзе» (дзе ён і дасюль сядзеў) і пачынае сватацца да Рагнеды ды «заваёўвае» Полацак, і толькі потым зноў «ідзе на Яраполка». У іншых месцах «Повести временных лет» гаворыцца, што Рагнеда мела ад Уладзімера ажно чатырох сыноў і дзьве дачкі й што ейны сын Ізяслаў быў пасаджаны ў **Полацку** й быў пасаджаны, як дарослы князь.

У Цьверскую хроніку трапіла трэйцяя версыя легэнды пра Рагнеду, якая гаворыць, што пасьля свайго хрышчэньня Ўладзімер наважыўся выдаць Рагнеду замуж за аднаго з сваіх баяраў. Рагнеда адкінула гэтую прапанову, і як «добрая хрысьціянка» пры такой-жа «хрысьціянскай» парадзе свайго «бязногага» сына Яраслава пастрыглася ў манашкі.

Наагул-жа гэтыя версыі легэнды пра Рагнеду, і асабліва першая, напамінаюць падобную «Карсуньскую легэнду» й іншыя легэнды пра сватаньні Ўладзімера. Ня ўсё ў парадку таксама з «унукамі» Рагнеды, што яна мела ад «сына» Ізяслава. Як падае «Повесть временных лет», Ізяслаў памёр у 1001 годзе, г. зн. маючы ня больш 20 год, калі прыняць найранейшы год народжаньня 980. Ён быццам-бы пакінуў двух сыноў: Усяслава й Брачыслава, значыцца зусім маленькіх, калі яны наагул маглі быць у Ізяслава. Аднак гэтых «заслужаных малютак» (Усяслаў памёр у 1003 годзе) летапісец знайшоў патрэбу запісаць у хроніку, ня ведаючы, адначасова, калі й дзе прыняў хрышчэньне Ўладзімер. Тут можа быць толькі адно із двух тлумачэньняў: або Ізяслаў з «сынамі» штучна падганяўся пад уладзімераўскі «падбой» Полацку, або Ізяслаў з сынам (братам) Усяславам былі ўжо добра знаныя князі й магчыма былі тымі «забітымі» сынамі Рогвалада. Трапляючы ў такую крыжоўку, цяпер савецкія гісторыкі добра ведамага Брачыслава наагул уважаюць сынам тае-ж Рагнеды й Уладзімера. Такім чынам, дабаўляецца яшчэ адна загадка, бо летапісы ня знаюць такога сына Ўладзімера.

Як бачым, легэнда пра Рагнеду гістарычна не апраўдваецца, не апраўдваецца й так званае заваяваньне Ўладзімерам Полацкага княства. Апошняе найлепш пацьвярджаецца тым, што ў пачатку XI стагодзьдзя Полацкае княства было такім-жа незалежным, якім яно было пры Рогваладу. Магчыма Рагнеда й была жонкай Уладзімера, але як-бы там ня было, за ейныя прыгожыя вочы такі прагавіты «манарх» Уладзімер не дазволіў-бы сабе «вярнуць ёй бацькаўшчыну». Зрэшты, калі-б гэтая «бацькаўшчына» была зьвернута пад «нагляд» сына, дык яна перажывала-б долю іншых земляў Кіеўскай Русі. Тым часам у Полацкае княства ня соўвалі носу «згодна старшынства» ўнукі й праўнукі Ўладзімера; Полацкае княства не адраблялася таксама тымі ці іншымі падаткамі, якія мусілі плаціць іншыя землі, залежныя ад Кіева. А гэта было першай прыкметай палітычнай залежнасьці ці незалежнасьці.

Войны Ўсяслава Чарадзея зь Кіеўскай Русьсю ў другой палавіне XI стагодзьдзя гавораць самі за сябе, і ў дадзеным выпадку ня прыходзіцца спасылацца на «сэпаратыстычныя тэндэнцыі».

У пытаньні заваяваньня Полацкага княства ў 1128 годзе й «цэзарства» Мсьціслава трэба мець на ўвазе й наступнае. Паміраючы, Усяслаў Чарадзей падзяліў Полацкае княства між сынамі. Гэта прывяло да спрэчак паміж імі й навет да варожых выступаў некатөрых із іх (Давыд), у саюзе зь Кіевам. На сваю ўласную руку менскі князь Глеб распачаў схваткі зь Кіеўскай Русьсю за Смаленск і Слуцк ці наагул Тураўшчыну. У выніку ў 1119 годзе Глеб трапіў у палон, а Менскае княства часова апынулася ў руках Уладзімера Манамаха. Полацкае княства было аслаблена, але каб заваяваць яго, Мсьціславу спатрэбіўся паход усіх злучаных «рускіх» сілаў і ў дадатак Торкаў ці «Чорна-

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

## *Прынцыповае ці другараднае?*

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

выклікаюць непаладкі й канфлікты на грамадзкім і навет палітычным форуме. Неапраўданыя гэтыя канфлікты навет і на чыста царкоўным форуме. Як, прыкладам, можна апраўдаць вузкі «дагматызм» тых — часта адданых патрыётаў, між імі й сьвятароў — хто выступае супраць крыжа Эўфрасіньні? Асьвечанаму чужынцу — навет і ворагу беларускае вызвольнае справы — гэта і ў галаву ня прыйшло-б. Але — з другога боку — ці апраўданае становішча тых прыхільнікаў прыжа Эўфрасіньні, якія ўважаюць усе іншыя формы крыжа ледзь ня сымбалем антыхрыста? Блага ўжо, калі справа так ставіцца на чыста царкоўным форуме — гэта дзеліць ужо вернікаў на варожыя лягеры — але яшчэ горш, калі справу гэтую пераносяць на грамадзкі і палітычны форум, намагаючыся ўзьнесьці яе да пытаньня прынцыповага характару.

Хай не пакрыўдзяцца за гэтыя разважаньні нашы карэспандэнты — між імі сябры, зь якімі даводзілася нам доўга і плодна супрацоўнічаць для нашай агульнай справы. Спадзяемся, што яны задумаюцца над узьнятай праблемай, і ў грамадзкай ды палітычнай дзейнасьці перад кожным крокам будуць ставіць сабе пытаньне: з агульнага гледзішча — гэта прынцыповае ці другараднае?

**Ул. Немановіч**

*Вяліkaліцьвін*

# Як паўстаў назоў „Беларусь“

Сп. М. Белямук надрукаваў у № 26 (561) «Бацькаўшчыны» 1961 г. ліст да рэдакцыі, у каторым абурыўся на сп. П. У. за тое, што ён назваў Кастанціна Каліноўскага нацыяналістым **беларускім.** Дык-жэ зараз на пачатку свайго лісту Белямук кажа: «Каліноўскі ніколі «беларускім» патрыётам ня быў і ня мог быць», бо ён паходзіў з былой Горадзенскай губ., із сучаснай Беласточчыны, якая ніколі ў склад Беларусі ня ўходзіла».

Гэткае цьверджаньне можа выклікаць толькі зьдзіўленьне і нат абурэньне, бо Каліноўскі быў тым, кім усе мы ёсьцека, зн. Беларусам, подле хвальшывага назову, накіненага нам Масквою, але цяпер, нажаль, найболей пашыранага; быў Ліцьвіном, подле нашага праўдзівага, гістарычнага, найдаўжэй трываючага і дагэтуль ня зусім шчэзлага назову; і быў Крывічом, подле найстаршага агульна-нацыянальнага назову нашага. Гэткім-жа ён быў і патрыётам, ды гэта-ж трэба сказаць і праз Горадзеншчыну, скуль Каліноўскі паходзіў.

Адлі Белямук піша: «Каліноўскі быў Ліцьвіном, а не Беларусам. Тэрмін «Беларусь», «беларускі» адносіўся вылучна да губэрняў Віцебскае й Магілеўскае. Губэрні Віленская, Менская й Горадзенская зваліся літоўскія.[1] З гэтага відаць, што абурацца няма чаго. Белямук не пярэча нацыянальнае прыналежнасьці Каліноўскага да народу нашага ані Горадзеншчыны зь Беласточчынаю да Бацькаўшчыны нашае, а мае наўвеце назоў.

Згодна з гэтым ён таксама кажа: «Каліноўскі быў змагаром з насільлем, а таму пад ніякім паглядам ня мог сябе ўважаць Беларусам, бо гэта было-б супраць ягонае палітычнае канцэпцыі, было-б нелягічным змагацца за свабоду, але з рабскім кляймом на чале». Вось-жа справа йдзецы праз нявольніцкае кляймо — накінены назоў, пярэчачы нашае нацыянальнае апрычонасьці. У прыведзенай цытаце толькі замест «уважаць», трэ было-б сказаць «зваць».

У менаваным лісьце сп. Белямук падаў факты, што, яшчэ ў 60-х гадох XIX стг., расейскія ўрадовыя дзейнікі, завучы наш край Літвою, не абыймалі гэтым назовам Жмудзі навет у шырэшым знчэньні назову «Літва».

Трэба зычыць сп. Белямуку, каб выказаваўся выразьлівей у сваіх артыкулах ды ня бачыў праціўнікаў там, дзе іх нямашака; бо калі хвальшывы назоў «Беларусы» цяпер яшчэ агульна ўжываецца, дык якая віна назваць Каліноўскага Беларусам?

Не зважаючы, адылі, на менаваныя заганы, ліст Белямукоў ёсьць каштоўным зацемам да гісторыі нашага паўстаньня 1863 г. Дзеля таго трэба зычыць, каб пры апрацаваньні гісторыі паўстаньня 1863 г. Белямук быў адным із ьяго аўтараў.

На ліст сп. Белямука сп. П. У. адказаў лістом, надрукаваным у № 28 (563) «Бацькаўшчыны».

Згадзіўшыся, што «Каліноўскі заўсёды ўважаў (тут таксама «ўважаў» замест «зваў» — В.) сябе Ліцьвіном, П. У. добра дадаець, што «Літвой зваліся ўсе землі сяньняшняе Беларусі». Ведама, а назоў «Белорусские губерніи» быў расейскім назовам адміністрацыйным, нічога ня маючым супольнага з тагачасным назовам запраўдным.

Сьцьвердзіўшы гэта, адлі П. У. у сваім лісьце займаецца пытаньнем, скуль паўстаў назоў «Белая Русь», «Беларусы»? Ён бача дзьве прычыны паўстаньня гэтага назову.

### Ці гісторыя асобных гаспадарстваў беларускіх мела ўплыў на паўстаньне назову «Белая Русь»?

«У першую чаргу, кажа П. У., тут ня трэба забывацца пра той факт, што назоў Літва быў накінуты цэласьці нашага народу адным племям. Аднак былі-ж і іншаназоўныя пляміёны, саюзы пляменаў і дзяржаўныя творы з больш шырэйшай гісторыяй і дзяржаўнымі традыцыямі (зн. шыршымі за тыя, што былі ў Літве ў XIII стагодзьдзі. В.). Гэтак незалежнае й магутнае княства Полацкае, што звалася проста Полаччынай або Крывіччынай; адлі (у П. У. «затым» ішлі Смаленскае, Чарнігава-Северкае й Тураўска-Пінскае княствы, якія даўжэйшы час (X — першая палавіна XII стт.) былі залежнымі ад Кіеўскае Русі й такім чынам былі пранікнутыя моцнымі «рускімі» традыцыямі. Натуральна, што ў гэтых землях існавалі тыя ці іншыя «сэпаратыстычныя» тэндэнцыі з адхіленьнем да «старыны».

Тут несправядліва ўжыта прыкрае слова «накінуты». У нашым гаспадарстве ня было накіданьня, была супольная свабода. Што да зьместу гэтае цытаты, дык, праўда, не патрабаваў аўтар яе менаваць Рэспублікі Пскоўскае й Вялікага Княства Разанскага, гаспадарстваў таксама беларускіх, бо яны адно кароткі час належалі да задзіночанага гаспадарства нашага, званага Літвою, але ня добра, што прапусьціў княства Дзераўскае. Дзерваў, што існавала перад паўстаньнем княства Тураўска-Пінскага. Зямля Дзерваў уся ўходзіла ў склад Вялікага Княства Літоўскага да 1569 г., а пасьлей заставалася да канца ў Літве тая часьць яе, што была памеж Прыпяцяй і гаспадарстваваЙ граніцаю з Польшчаю на паўдні. За гэтай граніцаю бальшыня Дзерваў із сталіцаю ў Аўручу апынулася, па 1569 г., у гаспадарстве польскім, адміністрацыйна-ж была злучана з Украінаю.

Нельга ня ўпікнуць аўтару лісту, што ён так недакладна азначае час вывальненьня ад Кіеву гаспадарстваў беларускіх, кажучы, што яны былі яшчэ залежнымі ад Русі ў першай палавіне XII стг.; прымеж таго толькі княства Тураўска-Пінскае вывальнілася ад Кіева і стала незалежным у 1157 г., два-ж засталыя вывальніліся раней. Гэтак княства Северскае сталася незалежным у 1024 г. посьле перамогі северскага князя Імсьціслава Вялікага над Яраславам Валадзімеравічам. Праўда, па сьмерці Імсьціслава Вялікага, ад 1037 г. да 1054 г. (сьмерць Яраслава), Северскае княства ізноў было ў залежнасьці ад Кіева, але ад 1054 г. ўвесь час заставалася незалежным ды часта само дзяржала Русь. Княства Смаленскае сталася незалежным у 1125 г.

Будучы-ж пад Русяй, Беларусы трох менаваных гаспадарстваў беларускіх, змагаліся, сілуючыся вывальніцца ад Русі, і гэта было іх імкненьнем да старыны і іхнай традыцыяй, а не традыцыя руская, ад каторае яны бараніліся. Праз гэта сьветчаць гістарычныя факты. Вывальніўшыся-ж, будучы спачатку ў васобных сваіх гаспадарствах, а пасьлей у супольным задзіночаным гаспадарстве сваім — Літве, яны й мелі тую старыну, да каторае ўперад імкнуліся. Калі-ж-бы ім не падабалася быцьцё ў задзіночаным нашым гаспадарстве, Літве, дык маглі-б хацець вярнуць сабе пярэдняе незалежнае гаспадарства пляменнае, але й гэтага ня было. Чаго было ім імкнуцца да Русі, з каторай уперад змагаліся? І ча-

# Да 1100-годняга юбілею Полацку

Сёлета беларускаму гораду Полацку спаўняецца 1100 год. Але 1100 год — гэта не дакладны век гораду. 1100 год таму, у 862 годзе, зьявілася толькі першая пісьмовая вестка пра існаваньне Полацку. Час фактычнага заснаваньня гораду ляжыць такім чынам у яшчэ больш сівой мінуўшчыне.

Тысячастагодні юбілей Полацку адзначаецца сёлета і ў БССР. Але робіцца гэта без належнага размаху і энтузіязму, якія павінен быў-бы выклікаць гэты вялікі юбілей, на якія заслугоўвае слаўная мінуўшчына гэтага старажытнага беларускага палітычнага і культурнага цэнтру.

Справа ў тым, што гісторыя Полацку ніяк не пасуе ў савецкую канцэпцыю пра паходжаньне, разьвіцьцё і ўзаемадачыненьні розных пацыяў, што ўваходзяць цяпер у склад Савецкага Саюзу. Як ведама, савецкая гістарыяграфія намагаецца паказаць гісторыю бальшыні народаў Савецкага Саюзу так, быццам яны заўсёды ад некага залежалі і заўсёды прасілі й атрымлівалі апеку з боку Масквы. Гэта прывяло да афіцыйнага, але адначасова бязглуздага падзелу народаў СССР на гэтак званага старэйшага і малодшых братоў. Беларусь зразумела, заўсёды фігуравала і фігуруе ў ліку «малодшых.

І таму ўжо сам факт, што Беларусь можа пахваліцца больш як тысячагадоняў. Вось гэта і трэба ўважаць галоўгандзе грунт с-пад ейных цьверджаньняў. Вось гэта і трэба ўважаць галоўнай прычынай таго, што тысячагодні юбілей Полацку прыгадваецца ў БССР толькі мімаходам. Але й там, дзе аб гэтым гаворыцца, гісторыя гораду як правіла хвальшуецца, падстрыгаецца, каб за ўсякую цану ўсадзіць яе ў рамкі актуальнай партыйнай ліні ў савецкай гістарычнай навуцы.

Возьмем адзін канкрэтны прыклад. У часапісе «Маладосьць» за сакавік гэтага году беларускі пісьменьнік Тарас Хадкевіч зьмясьціў аб Полацку цікавы нарыс пад загалоўкам «Скрозь стагодзьдзі». Пісьменьнік пісаў з душой. Яго захапляла і хвалявала веліч гісторыі гэтага беларускага старажытнага места. Ён аб'ектыўна прыгадаў некалькі характэрных мамэнтаў з гісторыі гораду, але, нажаль, ня мог абыйсьціся бяз сьведамых грубых выкрыўленьняў у вымаганым партыяй кірунку. У гэтым мы ня зьбіраемся абвінавачваць аўтара, бо добра ведаем савецкія ўмовы.

Гэтак, напрыклад, апісваючы Полацак першай палавіны XVI стагодзьдзя, Тарас Хадкевіч гаворыць:

«У тагачасным Полацку жыло звыш ста тысяч чалавек. З гістарычных крыніц ведама, што ён быў тады больш шматлюдным і больш багатым, чымся Вільня...»

Гэта праўда. Для лепшага ўяўленьня вялічыні і багацьця тагачаснага Полацку мы можам толькі дадаць, што ён быў большы і багацейшы за такі заходняэўрапэйскі горад, як тагачасны Лёндан.

Але веліч, слава і багацьце Полацку канчаецца ў другой палавіне таго-ж XVI стагодзьдзя. Больш дакладна — з мамэнтам першага заняцьця гораду войскам маскоўскага цара Івана Грознага. Аб гэтым прыгадвае ў сваім нарысе і пісьменьнік Хадкевіч. Але як? Вось што ён піша: «Іван Грозны узяў Полацак у 1563 годзе ў час Лівонскай вайны — гэта было першае вызваленьне гораду рускімі с-пад чужаземнага прыгнёту.»

Супаставіўшы зацытаваныя намі выказваньні Хадкевіча, ня можа не паўстаць пытаньне, як гэта магло здарыцца, што ў часе гэтак званага «чужаземнага прыгнёту» Полацак мог стацца больш шматлюдным і больш багатым за Вільню і навет Лёндан, а пасьля ягонага гэтак званага «вызваленьня» маскалямі ён раптоўна зусім зьнік з культурнай і палітычнай сцэны.

Увесь сакрэт хаваецца ў гэтак званым «вызваленьні» — у тым, што савецкая прапагандовая дыялектыка называе рэчы і зьявішчы не сваімі іменамі. Сапраўдная-ж прычына заняпаду Полацку наступная: За супрацiў насельніцтва маскоўскаму войску Іван Грозны загадаў зруйнаваць горад і зьнішчыць ягонае жыхарства. Палачан вязалі па некалькі асобаў і жыўцом кідалі ў Дзьвіну. У выніку гэтай і наступных расправаў горад быў настолькі спустошаны, што яму ўжо ніколі не ўдалося ўзьняцца на ногі.

Аб гэтым трагічным мамэнце ў гісторыі Полацку сяньня ў БССР гаварыць усё яшчэ забаронена. Заміж гаварыць праўду, загадваюць праслаўляць тыранаў тыпу Івана Грознага, а іхныя імпэрыялістычныя заваёвы і масавыя забойствы безбаронных людзей змушаюць называць «вызваленьнем».

Такое палажэньне можна было-б у некай ступені ўважаць нармальным пры панаваньні іншага тырана — Сталіна. Але цяпер, пасьля частковага выкрыцьця й асуджэньня сталінскіх злачынстваў, здавалася-б прыйшоў ужо час свабодна пагаварыць і аб больш аддаленых пэрыядах гісторыі. Бо гістарычнай праўды, так ці йнакш, схаваць усёроўна ня ўдасца.

**А. З.**

# Па сьлядох Аркадзя Смоліча

У савецкай прэсе часта прыгадваюцца прыродныя багацьці Беларусі. Наша краіна мае ня толькі «зялёнага сябру» — лясы, сады, хмызьнякі, ня толькі торф, але й схаваны каштоўны скарб у нетрах зямлі: солі, нафту, вугаль, вапну і іншыя мінэральныя багацьці.

Сёньня савецкія беларускія пісьменьнікі пішуць аб Салігорску, нафтавых вышках, аб тарфяных распрацоўках. Вось, маўляў, якія дасягненьні пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі. Знайшлі! Магчыма, знойдуць і карысныя руды — медзь, зялеза, срэбра. Усё магчыма. Але ўсё гэта зьяўляецца дасягненьнем бальшавіцкай улады?

Яшчэ ў 20-ых гадох беларускі навуковец Аркадзь Смоліч пісаў аб натуральных багацьцях Беларусі. Ён цьвердзіў, робячы выснавы з раскопак геалёгаў, што ў пэўных мясьцінах краіны ёсьць залежы вугалю. кварцу, солі й навет каштоўных мэталяў. Выказаную думку Смоліча пазьней падтрымалі й беларускія акадэмікі.

Здавалася-б, савецкі ўрад павінен быў-бы пайсьці насустрач і даць магчымасьці ў гэтым кірунку пачаць працу. Аднак, на справе было йнакш. Крамлёўскія акупанты ў той час вычувалі няпэўнасьць сваіх становішчаў. Рост нацыянальных сілаў у народзе, праява імкненьняў да незалежнасьці рэспублікі стварала хісткі грунт для бальшавікоў. Пачаць шырокія геалягічныя разьведкі, капітальныя распрацоўкі, будаваць шахты й руднікі ў тэй сытуацыі савецкаму ўраду было ня выгадна, і, можна сказаць, небясьпечна. Нацыянальныя настроі беларускай інтэлігенцыі пры наяўнасьці выяўленых матарыяльных рэсурсаў маглі-б яшчэ больш узьняцца ў кірунку незалежнасьці беларускай дзяржавы. З гэтае прычыны і была пушчаная ў ход савецкая прапаганда аб беднасьці глебы і нетраў Беларусі і аб нібыта беспадстаўных прыпушчэньнях і здагадках Смоліча й шэрагу беларускіх вучоных.

Пачаўся жорсткі перасьлед сумленнай думкі. Навуковую працу Смоліча й шмат каго з акадэмікаў дамарошчаныя марксістыя прызналі шкоднай, а аўтараў такіх працаў абзывалі буржуазнымі нацыяналістымі. Няшчасны лёс гэтых вучоных вырашыўся ў падвалах НКВД.

Аднак, праўда, якая была камуністымі прыдушаная і пахаваная, тая праўда, за якую людзі змагаліся й загінулі, праз чвэрць стагодзьдзя ўваскросла. Беларусь мае ня толькі вапну і торф, якія былі ведамыя здаўна. Шмат яшчэ хаваецца ў зямлі нашай бацькаўшчыны недасьледванага.

«А казалі, што наша зямля
Толькі бульбай багата ды лесам.»

Так піша малады паэт Мікола Аўрамчык і з захапленьнем далей заяўляе:

«Ажно ў нетрах яе заляглі
Скарбы вугалю, нафты і солі...

Вось яна, уваскрошаная думка Смоліча, выказаная сёньня ў вершаванай форме. Па сьлядох Смоліча і ягоных калегаў, якія заплацілі дарагой цаной — сваім жыцьцём, праводзіцца цяпер геалягічная разьведка на Беларусі.

Але ўсё яшчэ залежыць ад бальшавіцкага акупанта. Бяз санкцыі Масквы не пабудуеш ні шахтаў, ні руднікоў.

**Р. С.**

# Зьдзек зь беларускае літаратуры

Калісьці савецкія пісьменьнікі Ільф і Пятроў у сваіх сатырычных раманах паказалі аднаго спрытнага прайдзісьвета Астапа Бэндара. Мы чыталі і да сьлёз сьмяяліся. Вясёлыя авантуры, выдумка гумарыстых і, здавалася, напісана ўсё толькі дзеля сьмеху. Нікому і ў галаву ня прыходзіла, што «вялікі камбінатар» Астап Бэндэр — жывы, рэальны тып.

І сапраўды. Ён — ня плод фантазіі. Ён існуе на сьвеце. І навет жыве ў наш час, на Беларусі. Зь нейкага непаразуменьня, ці праўду кажучы, з паразуменьня камуністычнае партыі стаўся ён ня толькі беларускім, але і ўсесаюзным паэтам. Мала таго, і ў высокія начальнікі палез. Ад таго часу, як пачаў хваліць Сталіна, хутка пайшоў у гару. Старшыня праўленьня саюзу савецкіх пісьменьнікаў БССР. Ардэны, узнагароды. Адным словам, як казаў Астап, «парадам камандую я».

Звычайна, паэты ў такой сытуацыі знаходзяць адно выйсьце — замаўчаць. Але Броўка іншае натуры. Ён чалавек жа так. Ён Сталіна родным бацькам зваў, 30 год пісаў вершы аб ім, а цяпер усё на сьметнік кінута

Вось так і зрабіўся Пятрусь Броўка ляўрэатам прэміі. У 1951 годзе ён атрымаў прэмію за кнігу «Дарога жыцьця». Аб гэтым і ў Вялікай Савецкай Энцыкляпэдыі прыгадваецца.

А дарога жыцьця ў самога Броўкі — вельмі-ж зьвілістая. Каб да славы дайсьці, замала камбінацыяў Астапа Бэндэра. Трэба было ісьці й крывымі сьцежкамі. З рознымі махінацыямі. З палітычнымі хітрыкамі. І, галоўнае, падлізацца тагачаснаму тырану.

Яшчэ ў паэме «Кацярына» ўзьнёс аж да неба маскоўскага дыктатара:

Вось ён — Сталін. Наша сонца,
Перад ім — уся зямля!

Броўка ведаў, што гэтае «сонца» фіміям дзейнічаў. Яшчэ колькі такіх прыгрэе яго, нікчэмнага падпявалу. Ён-жа — паэта сталінскай эпохі. Ён пастараўся так цёпла і сардэчна выказаць пачуцьці магутнаму правадыру, гаворачы:

Гэта ён устаў над часам,
Зоркай яснай запалаў.
Гэта ён стварыў калгасы,
Дзе зямлю навечна даў,
І павёў дарогай росту,
На заўсёды зьнішчыў зьдзек, —
Самы родны, самы просты,
Самы мудры чалавек.

Броўка не памыліўся, і прэмія яму была забясьпечаная.

Аднак, на сьвеце ня ўсё трывалае, ня ўсё вечнае. Ясная зорка згасла. Няма таго мудрага чалавека, што ўстаў над часам. Цяпер на зьмену іншы мудры, які давёў, што Сталін — злачынца забойца, мардаваў нявінаватых. Пятрусю Броўку вельмі-вельмі прыкра. Яксталінскага гарту. Ён прагне зямной славы і велічы. Ён спрытны ў літаратурных справах. Ён і цяпер падымае галаву. Піша вершы. Яго перакладаюць у розныя мовы. Аб ім выказваецца Хрэньнікаў у «Известиях»: «Паэзія Пятруся Броўкі ярка нацыянальная, глыбока народная». І Мікалай Асеяў алею падлівае, соладка хваліць Пятруся. А той, як цеста на дражджох падымаецца. Як бачым, вялікі камбінатар ня сьпіць у шапку. У ім жыве дух Астапа Бэндэра: «Цяпер я камандую парадам». І ён выпушчае новы зборнік «А дні ідуць». І адхапіў за гэта ленінскую прэмію.

Ды на гэтым Бэндэр-Броўка ня спыняецца. У сваіх таемных думках ён заяўляе: «Камандорам беларускай літаратуры прызначаю сябе». Гэтую думку добра зразумелі ў Маскве. Зразумелі, што Броўка яшчэ прыдасцца ў будучыні. І ўжо авансам пастараліся. Падштурхнулі Казлова — старшыню прэзыдыюму Вярхоўнага Савету БССР, каб той выдаў «указ» такога зьместу:

«За заслугі ў разьвіцьці савецкай літаратуры і актыўную грамадзка-палітычную дзейнасьць прысвоіць таварышу Броўку Пятру Ўсьцінавічу ганаровае званьне народнага паэта Беларускай ССР».

Шкада, што Ільф і Пятроў не дажылі да гэтага часу і ня могуць прачытаць гэтага «ўказу». Яны цешыліся-б, што іхны герой жыве. І навет да карыфэяў літаратуры дабраўся. Цяпер Пятрусь Броўка — народны паэта рэспублікі! У роўні з Купалам і Коласам пастаўлены. Пасьмяяцца з гэтага! Але ці сьмешна? Вельмі горка і гідка. Якая прафанацыя беларускай літаратуры.

**Кастусь Рамановіч**

## *Зь Беларускага жыцьця*

## Актывізацыя БАПЦ ў Францыі

Стараньнем управы Аб'еднаньня Беларускіх работнікоў у Францыі а. др. Смаршчок з Бэльгіі наведаў Парыж і адправіў Багаслужбу для мясцовых праваслаўных Беларусаў у украінскай праваслаўнай царкве, што належыць да юрысдыкцыі Украінскай Аўтакефальнай Царквы.

Айцец Смаршчок дамовіўся служыць у гэтай царкве раз на два месяцы. Такім чынам, праслаўныя Беларусы ў Парыжы і ваколіцах будуць мець магчымасьць прысутнічаць на сваіх Багаслужбах прынамся некалькі разоў у год. Урэшце акцыя Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы пачынае ахопліваць і Францыю.

**Парыжанін**

му-бы ім імкнуцца да назову «Русь», каторым ніколі ня зваліся? І ніякіх фактаў на гэта нямашака. Некаторыя зь іх, як Палачане, Смаляне і асабліва Севяране даўгі час заховавалі свае пярэднія пляменныя назовы, але гэта не перашкаджала ім заразом звацца назовам агульна-нацыянальным — Літвою. У Польшчы дагэтуль захаваліся назовы пляменныя (Мазуры, Куявякі і інш.) побач із назовам агульна-нацыянальным.

Гэткім парадкам гісторыя асобных гаспадарстваў беларускіх не магла мець уплыву на паўстаньне назову «Белая Русь».

### Ці рэлігійныя дачыненьні ў Літве мелі ўплыў на паўстаньне назову «Белая Русь»?

Другой прычынаю паўстаньня назову «Белая Русь», подле П. У., былі рэлігійныя дачыненьні ў Беларусі. Аўтар лісту гэтак кажа пра іх: «Гэты тэрмін («Белая Русь» — В.) пачаў пашырацца ад канца XVI стг. й асабліва быў у модзе ў XVII стг., г. зн. у часе рэлігійных закалотаў, якія навет стварылі глебу для сялянска-мяшчанскіх паўстаньняў, падтрымоўваных украінскімі казакамі». Гэта адразу мушу запярэчыць. Паўстаньні ў Беларусі ня мелі характару рэлігійнага, але характар сацыяльны: быў прыгон, дзеля таго сяляне паўставалі. Такія паўстаньні былі ў шмат якіх краёх, найболей у Маскоўшчыне, ня мала іх было ў Заходняй Эўропе і найменей у незалежнай Беларусі або Літве, бо й прыгон тут быў найлягчэйшы (да забраньня Беларусі Масквою). Прынамся, як правіла, паўстаньні былі толькі сялянскія, дый ня шмат іх было ў гаспадарстве беларускім. Што-ж да тых паўстаньняў ,якія былі ў зьвязку з украінскімі казакамі, дык яны былі вылучна сялянскімі. Маглі, ведама, паўсталыя сяляне захапіць і места, але гэта ня знача, что разам ізь імі паўставалі мяшчане. Думаю, што ня мыляюся, дарма што я не дасьледаваў адумысьля гэтага пытаньня. Зацемлю, што, як і П. У., маю наўвеце паўстаньні супроці ўлады свае.

Але варочаймася да тэмы. П. У. кажа: «Усё гэта (розны ўціск праваслаўных. — В.) прывяло да таго, што народ пачаў шукаць нейкага ратунку. Літва банкрутавала, старына Полаччыны адышла ў забыцьцё, і народ пачаў хапацца за падненсеную царкоўнікамі «Белую Русь», якая, ведама, у тым часе ня прыносіла вялікае небясьпечнасьці, бо колішняя Кіеўская Русь пачала звацца Украінай, а ўсходні сусед меў свой собскі (у П. У. «уласны». — В.) назоў Маскаўшчына й Маскалі».

Ня ё маім заданьнем дасьледаваць рэлігійныя дачыненьні ў даўнейшай Беларусі. Зацемлю толькі, што калі хто пазнаець іх із тэндэнцыйнае літаратуры расійскае, дык ён бярэцца на вуду расійскага захопніцтва і праўды не даведаецца. Тут-жа я адно толькі дакрануся да рэлігійных дачыненьняў, колькі гэта трэба да разгляданае тэмы паўстаньня назву «Белая Русь».

Але ўперад зацемлю, што, як падаў Ч. Будзька у варт. «Руская зямля» («Бацькаўшчына» нр. 14—15 (549—550), і як сьцьвярджае П. У. у сваім лісьце, Маскаўшчына таксама звалася «Белаю Русьсю» і нат выперадзіла ў гэым нашых дзядоў. Што за шчасьце было мець назоў, у каторым можна было шукаць ратунку! Шкада, што цяпер ён ня мае таго чудоўнага дзеяньня. Але хто й ад каго ўцякаў да яго ў Маскоўшчыне?

Як падаець П. У., ужо ў 1476 г. князь Вяземскі быў названы сынам «князя Кастанціна зь Белай Русі». Значыцца, калі назоў «Белая Русь» паўстаў дзеля таго, каб уцісьненыя праваслаўныя Беларусы маглі ўцякаць да яго, дык у гэтым часе, альбо ўперад, альбо ў вадным і другім часе мусіў быць уціск праваслаўных. І запраўды П. Урбан падаець факты гэтага ўціску, у варт. «Да пытаньня «Змовы князёў» 1481 году», надрукаваным у сьцягу нумароў «Бацькаўшчыны». Наймя у № 31 (566) гэтае газэты на б. 2-й Урбан кажа, што, на просьбу Вялікага Князя Казімера, папеж прыслаў да Вільні Бэрнардынаў разам із Францішканамі, «якім Казімер надае надзелы дзеля збудаваньня манастыроў і касьцёлаў (зн., даў дзялянку зямлі. — В.), ды дае права ўмацоўваць у веры Хрыста неофітаў («перехрышчэнцаў»). Надзелы зямлі пад будоўлю манастыроў і цэркваў даваліся таксама й праваслаўным; а што даменаванага гэтта права, дык, прыкладам у Задзіночаных Гаспадарствах, яго маюць мніхі ўсіх цэркваў, і ад гэтага вернікаў іншых вераў ніхто не ўважае за перасьледаваных. Беспасрэдне па апошняй цытаце Урбан піша: «Ня дзіва (! — В.) таму, што ў сваім зьвярненьню (у П. У. «звароце») ў 1476 г. праваслаўныя магнаты ВКЛ, прызнаючы зьверхніцтва Рыму й папу Рымскага як свайго вярхоўнага пастыра, адначасова заклікалі апошняга скончыць з пашыранай практыкай у ВКЛ перасьледаваньня праваслаўных і прымусовага іх перахрышчэньня». Дзеля яснасьці трэба дадаць, што толькі тады прынукалі другі раз хрысьціцца, калі яны пераходзілі ў каталіцтва. Таковымі былі толькі рэдкія адзінкі. Магло быць гэта ім няпрыемна дый непатрэбна і з часам такога вымаганьня ня было, то ўсё-ж такі гэтага нельга назваць перасьледаваньнем.

Але менаваным «перасьледаваньні» праваслаўных не абмежаваліся. Урбан у тым-жа стаўпцу свайго артыкулу яшчэ кажа: «У 1452 г. папа Мікола накіраваў да Віленскага біскупа Мацьвея сваю Булю, дамагаючыся забароны сужэнстнва між каталікамі й праваслаўнымі (сьхізматыкамі й няверными), а ў выпадку гэтага сужэнства ці пажаданьня яго ажыцьцёвіць — вымагаць абавязкавага пераходу «сьхізматыка» або нявернага ў каталіцызм». Да 1905 г. ў Расеі забаронены быў пераход праваслаўных у якую-колечы іншую веру і ў тым ліку ў каталіцкую. І ў тым-жа часе каталіцкае духавенства забараняла сваім вернікам жаніцца з праваслаўнымі або выходзіць замуж за правслаўных. Забарон гэты надзвычайна рэдка быў узрушаны кім-колечы з каталікоў. Подле кадзе прыведзенага цьверджаньня Урбановага трэ было-б сказаць, што каталікі ў Расіі перасьледавалі праваслаўных. Але навет «такія вымаганьні Рыму, кажа Урбан, не заўсёды выконываліся, тым больш ня браліся пад увагу сьвецкімі Ліцьвінамі (зн. Беларусамі — В.), а таму тут былі частымі выпадкі жанімства праваслаўных з каталікамі й наадварот, бязь ніякай цырамоніі «пераходу» ці «перацягаваньня» ў тую ці іншую веру». Прыкладам, кіеўскі князь і прэтэндэнт на вялікакняжы пасад Сямён Алелькавіч быў жанаты з (каталічкай — В.) дачкой Віленскага ваяводы Яна Гаштольда.» **(Працяг будзе)**

[1] А. Пушкарэвіч у варт. «Преобразование духа народности», надрукаваным у «Известия Академии Наук СССР», 1932 г. № 1. Отделение общеественных наук», бач. 15–32, піша ў вынасцы на б. 16, што назовы «літовския губернии» і «белоруские губернии» цар скасаваў у 1840 г., загадаўшы пісаць кажную губэрню асобна, а ня лучыць ніводным із менаваных назоваў. Пушкарэвіч падаець тамжа, што ён узяў гэтую ведамку зь Ленінгр. адзьдзелу Цэнтр. архіву. Комітэт дзеля зах. губ., дзе пераховуецца собскаручны загад цароў: «Правіла гэтае дзяржаць і наперад. ніколі накш ня пішучы, як кажную губэрню асобна.» Значыцца сіла традыцыі была такая вялікая, што, не зважаючы на такі загад і далей звалі нашу Бацькаўшчыну Літвою, нат Мураўёвы.

